ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 8 (1658) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 21 ЛЮТАГА 1988 г. ЦАНА 12 зл.



БЕЛАВЕЖСКАЯ РАПСОДЫЯ. Фота Ул. Завадскага.

# РОДАМ З ПЯВУЧАЙ ЗЯМЛІ

„Ніву" наведаў Аляксандр Шыдлоўскі. Песні гэтага кампазітара надта папулярныя ў нашым народзе: як у Беларусі, так і на Беласточчыне.

Рэдакцыя ўзяла інтэрв'ю ў „Заслужанага дзеяча культуры БССР" Аляксандра Шыдлоўскага, чыё жыццё і праца, як герaічная казка, і яе ў вялікім скарачэнні хочам тут перадаць.

— Раскажыце крыху пра сябе. Адкуль ваш род і адкуль вытокі вашай творчасці?

— Родам я са Смаргоншчыны, вёскі Мінкі, нарадзіўся ў 1911. Смаргоншчына — цудоўная пявучая зямля. Адукацыяй для нас, вясковых дзяцей, была народная традыцыя, святы, фэсты. Я помню беларускае народнае вяселле — гэта проста як народная опера, у якой і пасмяяцца да слёз і паплакаць можна. Вось гэтае народнае мастацтва і пакінула вялікі след у юнацкай душы.

Пасля, калі я вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, сутыкнуўся там з Рыгорам Шырмам, які выкладаў музыку і спеў і які запісаў і сабраў сотні народных песень на Заходняй Беларусі, вёў у гімназіі хор. А былі гэта гады бурлівай дзейнасці Беларускай сялянска-рабочай „Грамады" і ўздыму рэвалюцыйнага руху на Заходняй Беларусі. Я ад 1927 г. прымаў удзел у рэвалюцыйнай барацьбе, быў членам падпольнага камсамола Заходняй Беларусі. У дзень прысуду „Грамады" мы ў гімназіі ў знак пратэсту зрабілі забастоўку. А на пачатку 1929 г. пасля забастовак у гімназіі і дэманстрацый больш як 40 вучняў былі выгнаны са школы, у тым ліку і я. Па загаду пасольскага клуба „Змаганне" нас паслалі ў Клецкую беларускую гімназію, але і яе хутка закрылі. Я вярнуўся ў Вільню і стаў прафесіянальным рэвалюцыянерам. Працаваў інструктарам пасольскага клуба „Змаганне", будучы адначасова інструктарам у акружным камітэце камсамола. У 1930 г. арыштавалі мяне як „выўратоўца", асудзілі на 5 год турмы і 10 год пазбаўлення грамадзянскіх правоў. У суме я прасядзеў у турмах даваеннай Польшчы шэсць гадоў. Сядзеў на Лукішках, на Макатове ў Варшаве, у Пятркове-Трыбунальскім і ў Серадзы. Пасля выхаду з турмы мне нельга было жыць на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Таму паехаў я ў Варшаву і там працаваў на вугальным складзе Варшава-Заходняя і на чыгунцы.

У Варшаве дзейнічала тады легальна Беларускае асветнае таварыства. Мы сустракаліся, стараліся арганізаваць беларускіх рабочых, студэнтаў, жанчын, якія многа служылі па дамах. Арганізавалі вечарыны, вялі дыскусіі, чыталі вершы. Я помню, як чытаў аднойчы верш Я. Купалы „Прарок", надрукаваны ў хрэстаматыі Дварчаніна, з якой мы вучыліся ў гімназіі. Паэт ставіць там пытанне: „Дзе ж вашы песні жыватворны?".

На вечары да нас прыязджаў Максім Танк, прыходзіў Забэйда-Суміцкі, выступаў у нас. Арганізавалі мы ўрачыстасць Новага года, танцавалі беларускія танцы, рыхтавалі народныя ігрышчы. Нас, членаў КПЗБ, шмат удзельнічала ў працах таварыства. Я помню актыўнасць майго таварыша па гімназіі Язэпа Урбановіча. Пры акупацыі ён стаў на Брэстчыне арганізатарам партызанскага руху, камісарам у партызанскім атрадзе, загінуў у 1944. У мяне ёсць песня, прысвечаная яму, „Ой, у полі дуб магутны".

— Вашае музычнае майстэрства, уражлівасць і любоў да беларускай песні выраслі пад уздзеяннем Рыгора Шырмы. Ён, найвыдатнейшы музыколаг, кампазітар, фалькларыст і дырыжор, пакінуў цэлы рад наследнікаў. Вы адзін з іх. І ва-

(Працяг на стар. 5)

ДА 70-ГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ АРМІІ

# З ЛЮДЗЬМІ І ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

Міхась Дудар, сын Марыі і Івана, нарадзіўся 15 кастрычніка 1919 г. у далёкім Омску (Сібір). Бацькі-беларусы прыехалі ў Омск, уцякаючы ад немцаў у першую сусветную вайну. У родны Вярсток вярнуліся яны ў 1921 годзе.

У Міхася было чатыры сястры. Адна памерла, адна жыве ў Эстоніі, а адна ў Калінінградзе (СССР). Чацвертая — у Кляшчэлях. У сем гадоў пайшоў у школу ў Вайноўцы, а затым у Палічнай. Вучыцца было цяжка, у бацькоў — вялікая гаспадарка і трэба было дапамагаць ім. У саракавым годзе Міхась Дудар ужо ў Чырвонай Арміі, танкістам. І так праслужыў ён у гэтай арміі да 8 верасня 1945 года. У чэрвені сорак першага прымае ўдзел у баях на фінскім фронце, дзе два разы параніла яго. Успамінае цяжкія моманты ў баях за астравы Эзел і Сааромэ, і над рэчкай Нарвай у Эстоніі, і ў Польшчы. Дваццаць першага студзеня сорак пятага года яго цяжка параніла ў грудзі. Па сённяшні носіць ён у сваім целе асколак велічынёю з паўтара сантыметра.



*На здымку Міхась Дудар як салдат Чырвонай Арміі.*

Пасля вайны ён вярнуўся ў бацькоўскі Вярсток, ажаніўся, стаў рабіць на гаспадарцы. Ад пяцьдзесят трэцяга па пяцьдзесят сёмы быў у спулдзельні прадукцыйнай. Гаспадарку бацькоў павялічыў да трыццаці гектараў. У восемдзесят трэцім годзе перадаў яе сыну Сцяпану.

У Міхася Дудара сямёра дзя-

(Працяг на стар. 7)

 

ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

# НАВАГОДНІ БАЛЬ




## гулялі, як анёлы ў небе!

Юнспецкор „Прысутнасці" ў вялікім скарачэнні хоча падзяліцца з вамі, дарагія чытачы, уражаннямі аб пабыўцы на навагоднім балі ў Варшаве ў Палацы культуры і навукі.

Быццам Шэрлок Холмс, каб не адрознівацца ад натоўпу, апрануўся я ў новенькі касцюм, прыхапіў для непазнакі 3 бутэлькі гарэлкі і быў ужо гатовы да місіі вашага карэспандэнта. У маёй кішэні былі пяро і блакнот. Ужо едучы аўтобусам, заўважыў, што пасажыры, якія ехалі, нейкія дзіўныя. Усе адборна апранутыя, жанчыны на твары размаляваныя, быццам бы толькі што прыляцелі з Парыжа. Усе з годнасцю маўчалі і трымалі ў руках велізарныя торбы, з якіх даносіўся пах марынаваных грыбкоў. На баль, падумаў я, і ўцешыўся. Заўсёды лепш ехаць у грамадзе сваіх людзей, хаця і маўклівых. „Бадай, будзем разам гуляць?!" — сказаў я аднаму, каб перарваць цішыню. Малады чалавек паглядзеў на мяне, як на вар'ята, і адказаў: „Chyba będziemy" ды нервова адсунуўся далей. Яго паводзіны сведчылі аб тым, што ён так моцна думаў аб балі, што аж забыўся простую мову.

Роўна а 21.00 распачаўся баль, які можна назваць каралеўскім. Сталы ўгіналіся пад ядою і напіткамі. Афіцыянткі лёталі між сталамі танцавальным крокам. Ну, на пачатку, як вядома, была вялікая цырымонія. Усе сядзелі штыўна за сталамі, людзі былі вельмі культурныя, адзін другому дарыў шчырыя добразычлівыя ўсмешкі. Аднак спакойная стыхія адыходзіла па меры таго, як пусцелі сумкі, якія стаялі пад сталамі. Распачаліся танцы — і тут у рытме песень Яцкаў Лехаў, Яроцкіх, Краўчыкаў людзі адчувалі сябе найлепш. Ну, і вядома, што яшчэ чалавек з усходу любіць спяваць і таксама паслухаць другіх. Маё вуха стараласяаднатаваць нейкія песні. І ўрэшце грымнула песня людзей, якія любяць свае родныя мясціны: „Hej, hej sokoły..." Ого, падумаў я, калі ўбачыў, што „sokołów" спявае амаль цэлая зала. І толькі недзе ў куточку адазвалася жменька маладых галасоў, якія ціхенька спявалі „Беларусачку". Дзіўная група!.. Яны не ўмелі, а мо не хацелі спяваць „Stepów szerokich". Некаторым было так прыемна сядзець за сталом, а такіх была большасць, што не схацелі нават паслухаць навагоднюю прамову Аляксандра Баршчэўскага, прамову, якую ўсе ўзнагародзілі доўгімі, шчырымі воплескамі.

А потым была поўнач. Шампанскае цякло ракою, быццам бы мы былі не ў Варшаве, а ў Парыжы. Усе цалаваліся (некаторыя нават і даўгавата), смяяліся. Карнавал! І ваш карэспандэнт, дарагія чытачы, нацалаваў столькі прыгожых дзяўчат, што будуць яны сніцца яму яшчэ доўга зімовымі вечарамі. А потым ужо ўсіх нас захаплялі танцы і песні ў выкананні застольных хораў. Усякая ўсячына — вочы наверх вылазілі.

Не агледзеўся я, калі трэба было пакідаць баль, які надоўга застанецца ў нашых змучаных галовах. Да сустрэчы праз год з новымі сябрамі і поўнымі сумкамі. Ужо выходзячы, я пераканаўся, што ёсць яшчэ закалёныя беларусы. Чалавек, са слязьмі ў вачах, сказаў мне: „Pamiętaj, młody chłopcze, żebyś zawsze był, kurwa, Białorusem". Пахіснуўся і ўпаў.

Праз год — наступная карэспандэнцыя.

**Юнспецкор**

## МАЛЫ

Нарадзілася дзіця. Цешацца бацькі, дзяды і нават чужыя. Жыхары вёскі гавораць аб нованароджаным, аб гарэлцы, якой так многа купіў бацька дзіцяці. Бабы рыхтуюцца ў адведкі. Бацька ганарыцца сынам і з вялікай радасці частуе ўсіх суседзяў, ды і сабе не шкадуе. Маці займаецца сваім найдаражэйшым скарбам. Але вялікае здарэнне пераходзіць у мінулае. Цераз некалькі тыдняў ужо мала хто памятае, апрача сям'і малога, аб тым, што ён так нядаўна паказаўся на гэты свет.

Праходзіць некалькі гадоў — і „малы" ўжо першакласнік. Мінула яго бесклапотнае брыканне па свеце. Трэба вучыцца. Нат „малы", які з вялікаю ахвотаю чакаў таго, каб пайсці ў школу, бачыць цяпер, што навука не адзін мёд. Канчае ён адну, другую школу і бачыць цяпер, якое нуднае і нецікавае жыццё вёскі, а як усімі краскамі вабіць горад. Яму цяпер ужо дваццаць гадоў і ён нават не думае вяртацца да сваіх родных, бо і сапраўды, што ж там цікавага? — адна цяжкая безупынная праца. І людзі там дурныя, бо ці можна быць разумным не вучыўшыся ў школах?

„Малы" застаецца ў горадзе. Наймае кватэру, жэніцца і жыве, не думаючы аб заўтрашнім дні. Не думае ён таксама, што яго родная вёска памірае, што пусцеюць хаты, старэюць людзі... Ён ужо гарадскі, і гэта не яго справа. Прыедзе яшчэ калі-некалі да бацькоў „дапамагчы" ў рабоце, гэта значыць узяць у горад крыху мяса, яек, смятаны. Прыедзе, набярэ — і хутчэй дахаты. — Не магу застацца на жніво, у мяне работа, — гаворыць бацькам.

Ідуць гады. У „малога" расце жывот, жонка таўсцее, гадуюцца дзеці. Становіцца ён сапраўды гарадскім чалавекам. Гаварыць „па-вясковаму" не ўмее, забыўся. А яго дзеці — гэта ўжо сапраўдныя гараджане. Вёска, што ж, жыве дагараючы. Такіх „малых" многа ў ёй нарадзілася, але жыць там не змаглі, а мо не захацелі. Памірай, вёска, калі ты так ахвотна выпускаеш маладых птушак са свайго гнязда...

**Яланта Грыгарук**



Рэйд беларускіх студэнтаў „Падарожжа-5" (сакавік 1986 г.).
Фота Л. Тарасэвіча.



ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка



 

(Працяг са стар. 1)

# ДА 70-ГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ АРМІІ

цей. Мікалай працуе машыністам паравозаў, Ніна і Ліда робяць у гайнаўскай малачарні, Алёша такарыць у Беластоку, Аня пайшла замуж за лясніка ў Тапіле, Ірэна робіць краўчыхаю.

Міхась Дудар заўсёды быў актывістам. У пяцідзесятым годзе прынялі яго ў партыю. Дваццаць пяць гадоў салтысаваў у сваім Вярстку, чатыры кадэнцыі прабыў радным у Палічнай і ў Дубічах-Царкоўных, а дзве кадэнцыі — павятовым радным у Гайнаўцы. Належыць да мноства іншых арганізацый, любіць быць патрэбным людзям.

За столькі гадоў жыцця і дзейнасці нямала ў яго ўсякіх адзнак, дыпломаў, медаляў і крыжоў заслугі. Перадаўшы добрую гаспадарку сыну, сам жыве цяпер у Гайнаўцы. І тут з яго неспакойны дух, усё нешта арганізуе, пра нешта клапоціцца. Цэлы час з людзьмі і для людзей.

**Аляксандр Закройшчык**

# ГОЛАДУ І ХОЛАДУ БЫЛО!

Пятро Міхалевіч — 1922 года нараджэння, відавец ён. Давялося яму ўсякага ліха хліснуць. Калі прыйшлі сюды немцы, яўрэяў пагналі яны ў гета. Ад вуліцы Замкавай у Бельску спрабаваў Пятро дастацца неяк у тое гета, каб дапамагчы няшчасным, але папаўся — немцы пасадзілі яго ў лагер. Там запакутваў, зажыў холаду ды голаду, асабліва ў лютую зіму 1943 года. Памарозіў ногі. Потым некаторых, а ў іх ліку і Пятра, павезлі немцы на работы. Так апынуўся ён у Ангербурзе (цяпер — Вэнгажэва). Накіравалі адтуль у маёнтак Весколіс каля Будры, у якім прарабіў да лета 1944 года.

Калі немцы пачалі ўцякаць перад савецкім фронтам, казалі яму, каб і ён уцякаў разам з імі.

— Мы, — успамінае П. Міхалевіч, — усе шэсць іхных нявольнікаў, запрэглі фурманку. Былі са мною палякі, украінец, чэх... Толькі мы ўселіся ехаць, як зглёдзеў нас нямецкі афіцэр, які загадаў затрымаць нас ды



*Пятро Міхалевіч у 1946 годзе, у час службы ў Літве.*

зачыніць у пустую хату. Думалі: цяпер каюк нам! Але ж прыходзіць іншы немец, расчыняе дзверы і крычыць на нас: раўс! І пагнаў нас пад Будру капаць нейкія акопы. Там капалі іх тысячы людзей. Два тыдні капалі. Ішоў сорак пяты год.

Вызвалілa нас усіх Савецкая Армія. Сказалі нам ісці дамоў. Зборны пункт знаходзіўся недзе пад Кенігсбергам (цяпер — Калінінград). Сказалі: хто хоча ў армію, можа ўступіць. Бралі толькі беларусаў, бо для палякаў была асобная армія, польская. Я ўступіў. Шостага красавіка сорак пятага года нашы атрады рушылі на штурм кенігсбергскай крэпасці. Загінула нашых нямала, мяне моцна параніла, звярэдзіла твар, куля прайшла цераз шчаку, засталіся толькі два зубы. Паклалі мяне ў вайсковы шпіталь у Тыльзіце. Вылечыўшы, паехаў са сваёй часцю ў Нямеччыну жыта жаць, бо пасля вайны балаган быў там непраўдападобны, не было каму рабіць, ратаваць краіну ад голаду. Затым — вярнулі нас у той жа Кенігсберг, склады пільнаваць. Адтуль адправілі неўзабаве ў Літву. У літоўскім горадзе Кеданяй трэба было вартаваць аэрадром з бамбардзіроўшчыкамі. Дэмабілізаваўся ў сорак сёмым годзе...

Застаўся ў жывых, а шматхто ж са знаёмых і сяброў наклаў галавою.

Праз два гады Пятро Міхалевіч ажаніўся з Вераю Раманюк са Шчытоў. У іх два сыны і дзве дочкі. Цяпер — пяцёра ўнукаў.

**А. Гаўрылюк**



*Фота з Кенігсберга, 1945 г. Пасярэдзіне — Іван Прасетка з Харкава, крайні справа: Міхась Несцярук з Роўна на Беларусі.*




У васьмікласнай школе ў Пашкоўшчыне разгортваецца мастацкая самадзейнасць. Спрыяюць ёй настаўнікі на чале са сваім дырэктарам Янкам Добашам.

Традыцыйная ёлка ў школе пераўтвараецца ў свята беларускай культуры. Сёлета, 23 студзеня, былі на ёлцы жаданыя госці, а сярод іх старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі.

Вучні пашкоўскай школы пад наглядам настаўніцы Ірэны Жменька прыгожа падрыхтавалі сваю ёлку, памяшканне. Папрацавалі яны і над падрыхтоўкай п'ес „Вываражыла", „Пярэстая красуля", „Валовая хатка" (узятай з „Зоркі"). Пасля тэатральных выступленняў адбыўся эстрадны канцэрт, у якім разам з вучнямі прымалі ўдзел і іхнія выхаваўцы. Усе былі ў народных кашулях. Праспявана дваццаць песень, пераважна беларускіх, што асабліва варта падкрэсліць, бо хто ж іх будзе спяваць, калі не самі беларусы. Вылучыўся сваёй таленавітасцю дуэт сёстраў Алі і Элі Максімючкаў.

Прыйшоў і Дзед Мароз. Як жа без яго можа адбыцца ёлка?!

Гасцямі былі і славутыя ўжо нашы народныя спевакі з Дубіноў, якімі кіраваў Пятро Скепка. Столькі добрага ўжо нагаворана пра калектыў „Дубіны", што мне няма чаго тут дадаць. Скажу толькі, што разам з дубінцамі выступілі пашкоўскія школьніцы Эля Загон з сёмага класа і Кася Залеўская — з шостага.

Трэба абавязкова пахваліць і бацькоўскі камітэт на чале з Яўгенам Сушчам. Свята святам, а ўсё і так валіцца на рукі бацькоў-мацярок.

**Міхась Хмялеўскі**

за плячыма 14-15 гадоў жыцця, не марыць аб славе, аб нейкіх гераічных подзвігах! А тут і радыё, і газеты безупынку праслаўлялі геройства савецкіх воінаў. Дайшлі да іх весткі і пра слаўную бітву першай Польскай Дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі ля пасёлка Леніна. Хлопцы, перш за ўсё Генрык Букерт і Лёнік Кварцяны, успомнілі сваіх старэйшых сяброў з Каракуліна: Мака, Кундзіча і Чарлюнчыкевіча, якія добраахвотна ўжо раней накіраваліся ў Войска Польскае. Дзе яны? Ці засталіся ў жывых?

Генрыку Букерту, ды не толькі яму, Мак, Чарлюнчыкевіч і Кундзіч прадстаўляліся сапраўднымі героямі. Генрык рашыў пайсці іх следам.

— Я тады, — кажа ён, — быў ужо камсамольцам. А камсамолец дык гэта камсамолец! Не страшны яму перашкоды. Рашыў я, што ўцяку ў Войска Польскае. А там хай што хочуць, тое са мною і робяць.

Расказаў пра свой план сябрам. Лёня Кварцяны яго падтрымаў. Раіў толькі ўцякаць не на захад, а на поўдзень, у напрамку Ташкента.

— Не, — рашуча запярэчыў яму Генрык. — Калі ўжо немцаў адагналі далёка ад Масквы, дык хутчэй дабярэмся дадому з Берлінгам, чым з Андэрсам. Бо хто яго ведае, дзе цяпер гэты Андэрс, неяк ціха пра яго і ў ваенных зводках нічога не паведамляецца...

Генерал Уладзіслаў Андэрс, камандзір Польскай Арміі ў СССР, у гэты час абараняў ужо англійскую нафту на Блізкім Усходзе, але хлопцы з Каракуліна, зразумела, нічога аб гэтым не ведалі. Камсамолец Букерт, памятаючы пра сваю хатнюю бяду і галечу, відаць, проста інтуітыўна не раздзяляў панскіх думак сваіх сяброў. Яму бліжэйшы па сэрцу быў пачын палкоўніка Зыгмунта Берлінга, які ўжо ў баі з гітлераўскімі захопнікамі прайшоў сваё баявое хрышчэнне...

Гарбель і Пашка захавалі поўную нейтральнасць. Ні туды, ні сюды. Гарбель апраўдваўся, што ён не можа ўцякаць, бо кульгавы. А Пашка? Пашка звычайна маўчаў.

— Цяпер абодва яны апынуліся недзе ў Ізраілі, — кажа Генрык Букерт. — То ж гора якое абодва яны перажылі! Гітлераўцы цэлыя іх сем'і цераз комін у неба пусцілі...

— Уцякаць рашыў я адзін, — сцвердзіў Генрык Букерт. — Сябры заручыліся чэсным словам, што ў ніякім выпадку не выявяць, куды я прапаў, а яшчэ аддалі мне свой дзённы паёк хлеба. З гэтым рушыў я ў дарогу.

Узяў ён прыцэл на Маскву. Дабрацца да Масквы, а з Масквы — усе дарогі куды хочаш... Толькі — як? У кішэні ніякіх дакументаў, адзін толькі камсамольскі білет і ані капеечкі.

Нейкі час прыглядаўся да цягнікоў. Адзін з іх, па маршруту Свярдлоўск-Масква, спыняўся ў Сарапуле. Трэба было мець, аднак, білет на праезд.

— Неяк прабраўся я і ў гэты свярдлоўскі поезд і тут жа схаваўся ў... сабачую скрыню.

— Куды? — не зразумеў я.

— То ж гавару: у сабачую скрыню! — паўтарыў Генрык Букерт. — У рускіх вагонах ёсць такія спецыяльныя адсекі, дзе перавозяць сабак. Вось засеў я туды, зачыніўся і сяджу, як мыш. Цесна, цёмна, холадна і галодна. А цягнік грукоча па рэйках... Дзень і ноч і яшчэ дзень... Да Масквы — амаль паўтары тысячы кіламетраў. Мой запас харчоў хутка скончыўся. Рашыў: пайду да людзей. Можа што паесці дадуць. Вагон быў агульны, без дзвярэй у пасобныя купэ. Людзі глядзяць на мяне як на дзіва нейкае. Я ж не думаў, што я такі брудны, беспрызорнік ды годзе... Бачу, ля акна сядзіць нейкі афіцэр, чай п'е і нечым закусвае... На ім — форма войск НКВД. Ну, думаю, папаўся! І ён падняў вочы на мяне.

— Дзядзечка, дайце крыху паесці! — сам не ведаю, ці я гэтак сказаў, ці гэта прабурчаў мой галодны страўнік.

Афіцэр пытальным зрокам акінуў хлопца і запытаў:

— А калі ты апошні раз еў нейкую страву?

— Сам не ведаю, — адказаў Генрык Букерт. — Можа два дні таму назад, а можа і трое сутак ужо прайшло. Афіцэр, на шчасце, больш не распытваў. Адламаў кусок хлеба... Адліў яшчэ ў пустую шклянку пару глыткоў нейкай вадкасці, мусіць гэтага чаю, і падаў мне.

— Толькі асцярожна, — папярэдзіў. — Каб завароту кішак не было!

Афіцэр аказаўся спагадлівым чалавекам. Генрык Букерт шчыра расказаў яму пра свой лёс і намеры, а той яго падтрымаў, і, калі правяралі білеты, хаваў Генрыка ў рэчавую скрыню пад лаўкамі. Так даехалі да Масквы.

— Ну, цяпер ты тут сам якнебудзь! — развітаўся афіцэр.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ





Лаўрэат ваяводскага агляду конкурсу савецкай песні і танца для дзяцей „Колеры дружбы“ калектыў „Вясёлыя ноткі“ з бельскай падставовай школы № 2. Вядзе калектыў настаўніца гэтай школы, салістка бельскіх „Васілёчкаў“ Валянціна Мароз. На здымку — выступленне калектыву, якім ён заваяваў званне лаўрэата. Фота Андрэя Урбанскага.

**19 лютага 1988 года вядомаму беларускаму пісьменніку Станіславу Шушкевічу спаўняецца 80 год. Чытачы „Зоркі“ добра ведаюць яго творы, чытаюць кніжкі, якіх ужо нямала напісаў пісьменнік. З нагоды такога юбілею жадаем пісьменніку шмат гадоў жыцця ў добрым здароўі і далейшага творчага натхнення для новых, цікавых кніжак для дзяцей і дарослых. Прапануем некалькі вершаў пісьменніка.**

Станіслаў Шушкевіч

## ЗІМА

Да цябе прыбеглі
Гуртам мы.
У цябе пытаемся,
У зімы:
— Ты куды падзела
Кветкі і мурог,
Ты куды схавала
Дзеразу і мох?

Ты чаму заснежыла
Поле і лясы,
Дзе багун і папараць,
Верасы?

— Ах, мае вы смешныя!
Як і вы,
Не кранала кветак я
І травы.

Не зрывала папараць
І багун:
Я ж усё ад холаду
Берагу.

Кветкам і травіцы
Сняцца сны —
Я прыкрыла шчыльна іх
Да вясны.

Ткала коўдру белую
Я сама...



Пэўна, ў вас пытанняў
Больш няма?

## ЛЯСНЫ ХАКЕЙ

На палянцы у хакей
Зайчыкі гулялі.
Баязлівы верабей
Сеў як можна далей.

Так кружылі — лёд трашчаў
І трашчалі клюшкі.
— Брава! Брава! — сыч крычаў,
Аж нямелі птушкі.

Злева быў варатаром
Медзвядзюк рухавы,
З доўгай клюшкаю-калом
Воўк стаяў направа.

Дацямна ішла гульня.
Страшнай ноч здалася.
Доўга воўчая гайня
У логава плялася.

У бярлог пайшоў мядзведзь,
Зайчыкі — у хаткі.
Нельга больш было сядзець,
Забалелі лапкі.

Крыкі, воплескі, як гром,
Чуліся навокал,
І не спала ўсё кругом —
Блізка і далёка.

## СНЕЖНЫ ДЗЕД

Скачуць дзеці. Шум і смех.
У камы качаюць снег.
Толькі снегу быў камяк,
А ўжо вырас дзед-дзівак:
Галава, нібы падушка,
Шапка з'ехала на вушка,
Губы — порхаўка,
Нос як моркаўка.
Пояс — рэмень наўскасяк,
З боку венічак-галяк.
Крочаць дзеці на абед,
І адзін застаўся дзед.

Верабейчык на плячы
Чыркнуў дзеду: чык-чык-чык!
Пасля пырхнуў — і няма.
Сыпле белы пух зіма.
Паглядзеў яму услед,
Зажурыўся снежны дзед.

## ЗАЙЧЫК ВУШКІ ПРАСТУДЗІЎ

Зайчык вушкі прастудзіў,
Закладае вату.
Каля лесу заблудзіў,
Ледзь прыплёўся ў хату.

Рукавічкі пагубляў
І прыбег без шапкі,
Снежкі часта ён шпурляў,
Адубелі лапкі.

Ён казаў, што лёд крышыў,
Памачыў валёнкі,
Клаў у роцік ледзяшы,
Піў ваду з палонкі.

Уладзімір Ліпскі

## ВЯСЁЛАЯ АЗБУКА

Пачатак у папярэдніх нумарах

### ЛІЧЫЛКА

Літара Л прыдумала лічылку:

— Ляцелі летам лебедзі ля лесу. Люлялі на крылах ліліпутаў. Ледзь селі лебедзі на лузе — сталі лічыць ліліпутаў.

Лінaчка, Леначка, Лісачка,
Лушачка, Лорачка, Лерачка,
Лаўрэнка, Лашурка, Лаконка
А дзе наш любімы Лявонка?

Пабегла Л шукаць дзяцей. Ля лавачкі гулялі Люба, Лёня, Ліля, Лера, Лёва, Лора, Лона, Ліна, Луша.

Люба люляла ляльку Алісу.

Лёня лавіў ластаўку.

Ліля і Лена лейкай палівалі лісцікі на ліпе.

Лера і Ліна ляпілі з гліны лася.

Лёва „лётаў“ на легкавіку.

Лора лячыла лякарствам легканогую Лайку.

Лона карміла лісліваю ліску.

Луша біла лынды.

Падбегла да лавачкі літара Л, хваліцца:

— Лічылку вясёлую прыдумала.

Л паствіла ланцужком дзяцей, пачала лічыць іх вясёлай лічылкай.

„Лявонкам“ вылічылі Лёву. Пачалася вясёлая гульня ў хованкі.

### ЯК МАЛПЫ ЗГУБІЛІ М

Мама Мартышка малола муку. Малпяняты Мікі і Мукі памагалі. Мікі-мукамол. Мукі — мукасей.

Мала-памалу змалолі мяшок мукі.

У Мікі — мазалі, маркотна мармыча:

— Мука малоць муку.

Малпяня Мукі тармосіць маму:

— Мама, ам, ам марожанае.

— Малайцы! Дам вам марожанае і мармеладу. Мыйцеся!

Мікі і Мукі маўкліва мылі мылам мордачкі. Мылі, мылі і вымылі М. Мяшкі без М сталі яшкі, мука — ука, млын — лын.

Мікі крычыць:

— Мама, млынар махае.

Без М атрымліваецца:

— А-а, лынар ахае.

Мукі вымаўляе:

— Мама, мне страшна!

Атрымліваецца:

— А-а, не страшна!

— Ікі, Укі! Ікі, Укі! — Мартышка шукае малпянят.

А малпяняты на магутнай магноліі ловяць М. Мудрая мама Мартышка памагае Мікі і Мукі. Маланкай мітусяцца малпы, мармычуць:

— Мы эм ам! Мы эм ам!

Без М малпіна мова незразумелая:

— Ы-э-а! Ы-э-а!

Працяг будзе



# ПРА МІШУ, МАШУ, САШУ І КАШУ

Міша і яго сястрычка Маша вельмі не любілі кашы, асабліва маннай. Не маглі нават глядзець на яе.

— Не хачу кашы, лепш буду галодны, — казаў Міша.

— А я, — казала Маша, — лепш буду піць рыбін тлушч.

Быў у іх і малодшы брацік Саша. Зусім маленькі. Такі маленькі, што кармілі яго з лыжачкі. Гаварыць ён яшчэ не ўмеў, а вымаўляў толькі асобныя гукі: „ма", „па" і „бу-бу-бу".

Аднойчы, калі мама збіралася Сашу карміць, зазваніў тэлефон. Яе выклікалі на работу. Таты дома не было, а бабуля пайшла ў магазін.

— Дзеці, — сказала мама, — мне трэба ісці. Пакарміце Сашу, манная каша на пліце.

Маша пераклала кашу на талерку, узяла лыжку і разам з Мішам пайшла да брацікa.

— Трэба надзець яму фартушок, — сказала Маша і пачала ўсё рабіць, як мама. — Трымай талерку, а я карміць буду.

Яна ўзяла брацікa на рукі, пасадзіла сабе на калені і зачэрпнула лыжку кашы.

— Паспытай, Сашачка, якую мама кашку табе зварыла. Як смачна! — Маша паднесла лыжку да Сашавага рота.

Саша незадаволена зморшчыўся і адвярнуўся.

— Сашачка, ты не хочаш кашкі? Паспытай, якая смачная!

І Маша паспрабавала падсунуць лыжку з другога боку.

Але Саша яшчэ мацней сціснуў губы і зноў адвярнуўся.

— Што рабіць? Не есць! — у роспачы ўсклікнула Маша.

— Я забаўляць яго буду, — сказаў Міша.

Ён узяў некалькі цацак, адну даў Сашу, другую пачапіў сабе на шыю, узяў дудачку і зайграў, прыпяваючы:

— Ду-ду-дудзем, ду-ду-дудзем,
Есці кашку мы будзем!

Саша з цікавасцю паглядзеў на Мішу. Відаць, песенька яму спадабалася. Ён усміхнуўся, але рота не раскрыў.

Тады Міша пусціўся ў скокі:

— Каша смачненькая
Ды салодзенькая...

Саша ўбачыў, як танцуе Міша, пачаў таксама перабіраць ножкамі, весела заўсміхаўся.

І толькі ён разявіў рот, як Маша адразу ж усунула лыжку.

Саша сярдзіта паглядзеў на сястрычку і... фыркнуў. Каша белымі пырскамі разляцелася ва ўсе бакі.

— Ах, які ты! Чаму не хочаш есці? Вось я табе зараз!.. — раззлавалася Маша і хацела адшлёпаць брацікa, але Міша яе спыніў:

— Пачакай, так карміць нельга. Трэба па-даросламу. Давай паспрабуем разам карміць.

Ён збегаў на кухню і прынёс яшчэ адну лыжачку.

— Зараз Саша з'есць лыжачку за маму...

— І за тату... — Маша таксама зачэрпнула кашы.

Але Саша не хацеў есці ні за маму, ні за тату, а тым болей за сябе. Ён круціў галавою, і як ні стараліся няньі ўвапхнуць лыжку ў рот, — не ўдавалася.

— Трэба паказаць прыклад — самім есці, — сказаў Міша, прыгадаўшы сваю настаўніцу Ніну Пятроўну. — Сашачка, паглядзі, як Маша будзе есці кашку.

— Не хачу я гэтай кашы! — закрычала Маша. — Цярпець яе не магу!

— А я кажу, трэба, — паўтарыў Міша і працадзіў праз зубы: — Ну!

Пярэчыць было бескарысна, і Маша неахвотна разявіла рот.

— Га-ам! — Міша засунуў ёй лыжку з кашай. — Глытай! — загадаў ён. — Ну! Гэта за маму, а зараз — за тату... — і ён прымусіў сястру праглынуць яшчэ адну лыжку.

— А цяпер Сашачка з'есць за бабулю, — і, набраўшы кашы ў лыжку, паднёс брацікy.

Але Сашаў рот па-ранейшаму быў закрыты, а вочкі дапытліва пазіралі на Машу.

— Яму цікава паглядзець, як ты будзеш есці, — сказала Маша. І, не даючы брату апамятацца, хуценька засунула лыжку з кашай яму ў рот. — Ну, глытай хутчэй!

Што было рабіць? Скрывіўшыся, быццам у роце не каша, а лімон, Міша праглынуў.

— Не так! Саша можа падумаць, што каша нясмачная. Зрабі выгляд, што табе вельмі падабаецца.

І яшчэ лыжка кашы схавалася ў Мішавым роце.

— А зараз лыжачку Сашу...

Але цікаўныя вочкі зноў пазіралі на сястрычку.

— Не, Машы...

— А зараз Міша за бабулю...

— А Маша за дзядулю...

— А Міша за тату...

— А Маша за маму...

Лыжкі так і мільгалі да рота то аднаго, то другога. Саша ледзь паспяваў круціць галавою і пераводзіць позірк з брата на сястру.

Нарэшце яны ўспомнілі пра брацікa.

— А зараз Саша з'есць лыжачку за...

Лыжка стукнула аб пустое дно.

Брат і сястра здзіўлена пераглядзелі адно на аднаго. Як магло так здарыцца? Яны ж цярпець не маглі гэтай маннай кашы!

У хуткім часе прыйшла мама, здзівілася Сашаваму апетыту і зварыла яму яшчэ адну талерку кашы. А Міша і Маша больш ніколі не казалі, што не любяць кашы.

**Сяргей Тарасаў**

## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Піша да Цябе вучаніца чацвёртага класа з Пачатковай школы ў Кленіках Данута Ільяшук.*

*У нашым класе вучыцца шэсць дзяўчатак і дзесяць хлапчукоў. Усе мы вывучаем беларускую мову. Вучыць нас беларускай мове настаўніца Вера Флорчук. Раз у тыдзень мы чытаем „Ніву", а ў ёй перш за ўсё — „Зорку". Кожную нядзелю я слухаю з Беластока перадачы па радыё на беларускай мове. Я намалявала карцінку. Высылаю яе Табе, „Зорка". Ці падабаецца Табе яна?*

**Данка Ільяшук, 4 кл., Кленікі**



## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**У пустыя клетачкі ўмалюй прадмет, які лагічна згаджаецца б з двума іншымі. Падпішы яго правільна па-беларуску.**

## Вучнёўская творчасць

### ЗІМОВЫЯ ГУЛЬНІ

Зіма — дзецям гульня.
Бегаюць, скачуць,
У снежкі іграюць,
Ездзяць на лыжах,
З горкі з'язджаюць,
На лёдзе гуляюць,
Снежную бабу стаўляюць.

**Аня Коўнер, IV клас, школа ў Ласінцы.**

### ЗІМА

Надышла зіма
Ветры загулі,
Белым пухам
Пакрыліся палі.

Прыйшоў мароз,
Пэндзлікам махае.
Вокны ў узоры
Прыбірае.

Выбеглі дзеці
На снег, для гульні.
Шчокі чырвоныя,
Як агні.

**Ала Гайдук, IV клас, школа ў Ласінцы.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, вул. Ільюшына, д. 47. Арэхавай Наташы. 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 53, кв. 28. Аксана Мільгуй, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 49. Оля Зраева, 6 клас.

* * *

БССР, 220014, г. Мінск-14, вул. Мініна, 26, кв. 2. Наташа Кучук, 7 клас.

* * *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Дзекабрыстаў, 15, кв. 3. Іра Ефрэменка, 6 клас.

* * *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Дзекабрыстаў, 15, кв. 3. Андрэй Ефрэменка, 7 клас.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Зорка".



## ТАБЕ ДОБРА

— Мы жывем у страшны час. Я толькі і чую дома — грошы, грошы, грошы!..

— Табе яшчэ добра! А я: „Няма грошай, няма грошай, няма грошай!“

З суседскага агародчыка

## ЗАВУШНІЦЫ

— Як у вас з несунамі? — пазванілі дырэктару ювелірнай фабрыкі з міністэрства.

— Як і ўсюды, — адказаў дырэктар.

— Што значыць, „як і ўсюды“? — голас загучаў раздражнёна. — А калі канкрэтней?..

— Справа ў тым, што ў нас спецыфіка. Наша прадукцыя, так сказаць, зручная для выносу.

— Гэта не адказ... Працаваць трэба, дарагія таварышы. Карацей, распрацуйце мерапрыемствы па барацьбе з несунамі, заплануйце, каго пакараць, нарэшце, зрабіце, каб ваша прадукцыя была нязручнай для выносу і, наогул, прыміце канкрэтныя меры і далажыце. Усё зразумела? Выконвайце!

Пасля гэтай размовы дырэктар усю ноч не спаў: усё думаў, якія ж канкрэтныя меры прыняць? А раніцой аддаў загад: перайсці на выраб пазалочаных пудовых завушніц.

**Васіль Дружкоў**



## САМА ВІНАВАТА

Кастусь з Маланкай паспрачаліся. Маланка не сцярпела і кажа:

— Вось дурніца, што выйшла за цябе замуж.

— Але ж я тут не вінаваты.

— Ты не вінаваты, што я за цябе выйшла замуж?

— Я не вінаваты, што ты дурніца.

## ДЗЯЎЧЫНА ЦІ ХЛОПЕЦ

Дзядзька Сымон чакае аўтобуса на прыпынку. Захацеў пакурыць, а запалкі ў карабку скончыліся.

— Хлопец, дай агеньку, — звяртаецца ён да таго, хто стаіць бліжэй і дыміць.

— Калі ласка... Толькі я не хлопец, дзед.

Дзядзька Сымон спакойна паціскае плячыма:

— Тады і не дзяўчына...





Не бачыў далей свайго носа.
Таму ўсюды яго соваў.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Сёння нашы радавыя Чуркін і Бусыга цудоўна стралялі — усе тры кулі ў „яблычка“, ды так кучна — пятачком накрыеш.

— Э-э, брат, далёка вашым стралкам да нашага Афонькіна. Яго вынікі пад капейкай схаваюцца.

— Няўжо кулю ў кулю пасадзіў?

— Ды не, адну прабоіну толькі і знайшлі ў мішэні.

*

— Тата, тысяча марак — гэта многа?

— Глядзячы чаго ты хочаш — зарабіць іх ці патраціць.

*

— Якой вы думкі пра кандыдатаў у бургамістры?

— Мяне цешыць, што з іх выберуць толькі аднаго...

## КАРЫСЦЬ

Начальнік папракае пана Задрыпкоўскага:

— У сваёй рабоце вы ўвесь час допускаеце мноства памылак.

— Але ў гэтым ёсць станоўчы бок, — адказвае пан Задрыпкоўскі.

— Цікава ведаць, які?!

— На маіх памылках вучыцца ўся кантора.

З „Весніка Задрыпоніі“

## І МАРОЗ НЕ БЯРЭ!

Марозаўстойлівы бетон выпускае Ачуцінаўскі растворны цэх. Пры любой сцюжы той не застывае шмат месяцаў запар.

## ЗАКЛІК

Старшыня Алілуйчык на першым у гэтым годзе пашыраным пасяджэнні праўлення сябрыны „Сонечная крыніца“ выступіў з заклікам: „Давайце цешыцца толькі з добрага“!

## ВЯСЁЛКА І СОНЦА

Вясёлка Сонцу кінула папрок:
„Навошта промнямі ты разганяеш змрок!
У цемры так я засвяціла б,
Што Зоркі й Месяц зацямніла б,
Спрачалася б з Паўночным зззяннем.
І Сонца здзейсніла яе жаданне:
За хмары светлы твар схавала,
Вясёлкі ў той жа міг не стала.

**Хведар Жычка**

## ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ

**Сем дэталяў, якіх няма на верхнім малюнку, знойдзеце на ніжнім малюнку. На пошукі прызначаем 15 мінут.**





**Разгадка:** 1) кружок з-над свечкі знаходзіцца на санках, 2) лінію, якой няма на плячах крацістага плашча, убачыце на санках, 3) чорны прамавугольнік са світэра мужчыны знаходзіцца на галаве хлопца, 4) спражка з рэменя — гэта акно, 5) авал з цэнтра верхняга малюнка, што вісіць у вітрыне, знойдзеце на грудзях хлопца з шалікам, 6) гузік-пампонік з футра знаходзіцца на галаве хлопца справа, 7) чорны берэт з галавы дзяўчыны знойдзеце над лобам хлопца на першых санках.

# КУР'ЁЗЫ

## ВЕРСІЯ „ЗАЙЦА“

Незвычайная гісторыя здарылася з 12-гадовым аргенцінцам з Буэнас-Айрэса Анхелем Дарыо Паэсам. Вырашыўшы крыху падарожнічаць, хлопчык адправіўся ў аэрапорт і, не маючы пры сабе ні грошай, ні дакументаў, паляцеў... у ЗША.

На кантрольным пункце ён заявіў служачым, што едзе з маці, якая быццам бы прайшла кантроль раней, і таможнікі бесперашкодна прапусцілі юнага „зайца“ ў самалёт, які робіць рэйсы паміж Буэнас-Айрэсам і Маямі.

Усеўшыся на адно са свабодных месц у салоне, Анхель без асаблівых цяжкасцей дабраўся да Маямі і нават заказаў сабе ў шляху абед за кошт авіякампаніі. У ЗША агентаў таможні і іміграцыйнай службы ён правёў тым жа спосабам, што і ў Буэнас-Айрэсе.

Падарожнік быў затрыманы толькі праз два дні адным са служачых авіякампаніі, які прыляцеў у Маямі тым жа рэйсам, што і Анхель. Ён і заўважыў знаёмага яму хлопчыка, які спаў у зале чакання аэрапорта. Вынаходлівага парушальніка даставілі самалётам усё той жа „Істэрн айрлайнз“ ў Буэнас-Айрэс.




Каб знайсці супольную мову, дастаткова закрыць рот.